ДЫЯЛОГІ





## Міхась СКОБЛА – Радзім ГАРЭЦКІ

# «Беларусь магла набыць пару радовішчаў і не мець праблем з нафтай»

*Акадэміку Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму – 90. Але і на дзясятым дзясятку ён не развітваецца з Нацыянальнай акадэміяй навук, дзе доўгі час узначальваў Інстытут геахіміі і геафізікі, актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і Беларусі, доктар геолага-мінералагічных навук, знаўца зямных нетраў, ён яшчэ і дасведчаны гарэцказнавец – аўтар захапляльных кніг пра сваіх знакамітых бацьку і дзядзьку. Пра схаваныя ў зямлі багацці і верагоднасць землятрусаў на Астравеччыне, пра беларускую «дзвюхдушнасць» і род Гарэцкіх мы пагутарылі з юбілярам у яго дома.*

**– Радзім Гаўрылавіч, у перадʼюбілейныя дні я ніяк не мог застаць вас у хаце: вы ўсё на працы і на працы. У ранейшай Акадэміі навук у вашым падпарадкаванні быў цэлы інстытут. Аднак у выніку рэформаў ён быў ліквідаваны. Дык дзе вы цяпер працуеце?**

– Калі ў 2001 годзе кіраўніком Нацыянальнай акадэміі навук быў прызначаны Міхаіл Мясніковіч (раней мы кіраўнікоў выбіралі на агульным сходзе), ён чамусьці вырашыў развіваць толькі прыкладныя навукі. Адпаведна і грошы размяркоўваліся. Уся геалогія была перададзена ў Міністэрства прыродных рэсурсаў. На жаль, мой інстытут як акадэмічная структура перастаў існаваць. А ён быў адным з самых вядомых у свеце. У лепшыя часы ў інстытуце працавала каля 400 чалавек, мы ўзвялі новы будынак, у нас былі свае навуковыя школы, лаўрэатаў і акадэмікаў у нас было найбольш. Што ні імя, то светач у сваёй галіне: геолагі Аляксандр Махнач і Гаўрыла Гарэцкі, геахімік Канстанцін Лукашоў, гідрагеолаг Герасім Багамолаў... Па гэтых напрамках мы грымелі на ўвесь свет! А цяпер нічога няма, пры міністэрстве зрабілі навукова-вытворчы цэнтр па геалогіі. Праўда, над акадэмікамі Мясніковіч злітаваўся і перавёў нас у акадэмічны Інстытут прыродакарыстання. Там я і працую.

### «Землятрус на Астравеччыне можа адбыцца – да 5–6 балаў»

**– Адна з нядаўніх вашых прац – косматэктанічная карта Беларусі. Яна ў вас на сцяне вісіць. А хіба космас і геалогія неяк спалучаюцца паміж сабой?**

– Яшчэ як спалучаюцца! З космасу выдатна відаць усю зямную паверхню, асабліва зоны, дзе існуюць разломы зямной кары. Іх, дарэчы, у Беларусі нямала.

**– А ці надзейнае месца – Астравец, дзе будуецца АЭС? Кажуць, 100 гадоў таму там здарыўся неслабы землятрус.**

– Астравец – больш-менш надзейнае месца. Той стогадовай даўнасці землятрус адбыўся за 30–40 кіламетраў ад Астраўца. Прычым сапраўды быў даволі моцны – каровы падалі, хлявы валіліся, пра гэта нават часопіс «Нива» пісаў. Той землятрус і сёння застаўся бачны ў рэльефе.

**– Калі Астравеччыну трасло, то дзе гарантыя, што не трасяне зноў?**

– Гарантыі няма. І землятрус там можа адбыцца – да 5–6 балаў. Таму АЭС праектавалі і будуюць з улікам такіх прагнозаў. Мы, геолагі, рэкамендавалі для АЭС іншае месца – на Шклоўшчыне. Але нас не паслухалі, было прынята чыста палітычнае рашэнне. Яшчэ адна сейсматрывожная зона ў нас – пад Салігорскам, дзе ёсць наша вымяральная станцыя. Там маленькіх землятрусаў бывае да ста ў год. Што да АЭС, то яны ўсе патэнцыяльна небяспечныя, трэба пераходзіць на ўзнаўляльную энергію, ветракі ставіць. Вось Германія атамных станцый не будуе і правільна робіць.

**– Затое цягне з Расіі газавыя трубы па дне Балтыкі… Што да небяспекі, то хіба мы не жывём на «ядзерным рэактары»? Я маю на ўвазе зямное ядро. Ці няма небяспекі ўсяму чалавецтву – адтуль?**

– Небяспека і адтуль ёсць. Ажываюць вулканы, магма выліваецца на паверхню, велізарная колькасць вулканічнага попелу выкідваецца ў атмасферу. Гэта можа скончыцца сусветнай катастрофай. Выбуржэнне інданезійскага вулкана Кракатаў у 535 годзе змяніла клімат на ўсёй планеце. Зямля была закрыта попелам, сонца не пранікала. А ў 1883 годзе вулкан выбухнуў з такой сілай, што зямная парода разляцелася ў радыусе 500 кіламетраў. Сіла выбуху ў 10.000 разоў перавысіла выбух атамнай бомбы над Хірасімай.

**– Пры сучасных тэхналогіях ці можа чалавек умяшацца ў працэсы, што адбываюцца ў зямным ядры, і прыскорыць канец свету?**

– Спадзяюся, да гэтага ўсё ж не дойдзе. Хоць чалавек сёння мала думае пра будучыню, знішчаючы прыроду. А з прыродай нам трэба быць на «вы». Лясы высякаем, балоты асушаем, пітной вады ўжо бракуе цэлым краінам. Хутка вада стане даражэй за нафту і газ.

**– Вось тады Беларусь зажыве! У нас столькі рэк і азёр.**

– Чорта з два! Мы так загадзілі ваду, што піць яе хутка стане немагчыма.

### «Беларускую нафту хоць адразу ў аўтамабільны бак залівай!»

**– У «Народнай Волі» нядаўна выступаў нямецкі амбасадар і паведаміў, што Германія закупляе ў Беларусі да 1,5 мільёна тон нафты (прыкладна столькі мы і здабываем). Менавіта беларускай, так яна ім падабаецца. А чым наша нафта прываблівае замежнікаў?**

– Беларуская нафта лёгкая, у ёй мала розных дамешкаў. Нашу нафту хоць адразу ў аўтамабільны бак залівай! Расійская – цяжкая, у ёй шмат мазуту і г.д. У свой час беларускай нафтай разбаўлялі расійскую (запампоўвалі проста ў нафтаправод «Дружба»), каб тая лягчэй плыла ў Еўропу. У лепшыя часы мы даставалі з нашых нетраў да 8 мільёнаў тон нафты ў год, а ўсяго здабылі больш за 100 мільёнаў.

**– Дык можа, пры ашчадным выкарыстанні нам і сваёй нафты хапіла б? А то штогод выпрошваем у Расіі, па коштах спрачаемся.**

– Сваёй, на жаль, не хопіць. Рэчыцкае радовішча было фактычна загублена няўмелай здабычай. У нас жа чыноўнікі прывыклі камандаваць: давай-давай, а пасля нас хоць трава не расці… Прырода гэтага не любіць. Мы ў свой час маглі пазбавіцца сваёй адвечнай энергазалежнасці. Я доўгі час працаваў у Расіі, Казахстане і Туркменістане – у краінах, дзе нафты хоць заліся. Я сябраваў з міністрам геалогіі Казахстана, меў сувязі і ў Расіі. І калі быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук, некалькі разоў размаўляў на гэту тэму з Аляксандрам Лукашэнкам. Мы сустракаліся на прыёмах у мітрапаліта Філарэта. Памолімся ўсе і ідзём у гасцявы пакой, дзе ўжо накрыты сталы. На тых прыёмах я казаў прэзідэнту: «Аляксандр Рыгоравіч, дайце мне паўнамоцтвы, я паеду і дамоўлюся, каб нам прадалі ці здалі ў арэнду пару нафтавых радовішчаў». А прэзідэнт у адказ: «Брось дурака валять! Нам Россия нефти даст столько, сколько надо, мы же друзья». На гэтым усё і скончылася.

**– Шкада, а то вы цяпер кіравалі б якой-небудзь карпарацыяй «Белнафта» ў Сібіры, «Народнай Волі» дапамагалі б… А гэта праўда, што ў ваш гонар названы некалькі відаў выкапнёвых арганізмаў?**

– Гэта яшчэ ў Казахстане было, я там знайшоў парэшткі невядомай раней жывёлы. Так, яна атрымала назву *гарэцкі*. А быў такі выпадак: мой бацька будаваў на Доне Цымлянскую ГЭС і знайшоў выкапнёвыя ракушкі. А я ў гэты час працаваў на Каспіі і таксама выявіў падобныя ракушкі. Параўналі – адзін і той від. То і ракушкі – *гарэцкія*.



З жонкай Галінай.

### «Беларусь па карысных выкапнях – багатая краіна»

**– У свой час вы склалі тэктанічную карту Еўразіі, за што былі ўганараваны Дзяржпрэміяй СССР. Вы, мабыць, як ніхто іншы, ведаеце нетры Беларусі – дзе, чаго і колькі можа быць. Якія карысныя выкапні маглі б дапамагчы нашай краіне выйсці з эканамічнай нэндзы? Ці нам багацець трэба за кошт нечага іншага?**

– Карту Еўразіі я зрабіў, калі яшчэ жыў у Маскве. Прыехаўшы ў Беларусь, перш-наперш склаў тэктанічную карту Беларусі. Часам можна пачуць, што Беларусь – маленькая, бедная, нічога ў нас няма, толькі людзі добрыя і працавітыя. Насамрэч гэта не так. Беларусь па карысных выкапнях – багатая краіна. Японія за нас у 100 разоў бяднейшая! Многія краіны зусім не маюць карысных выкапняў ці маюць іх вельмі мала – Швейцарыя, Бельгія, Нідэрланды. А людзі там жывуць нашмат лепш, чым мы. Што нам дае найбольш валютных сродкаў? Не МАЗ, не МТЗ, а калійныя солі – два мільярды долараў штогод! Мы амаль цалкам забяспечваем сябе будаўнічымі матэрыяламі. А спажыўнай соллю мы можам накарміць цэлы свет! Мы багатыя на мінеральную ваду, на расолы, з якіх пры адпаведнай тэхналогіі можна атрымліваць літый, бром, ёд і г.д. У нас ёсць жалезная руда, буры вугаль, гаручыя сланцы, фасфарыты і г.д. Пры добрым гаспадаранні мы можам быць паперадзе ўсёй Еўропы.

**– «*Пісаць пачынаю ўсё горш і горш, / пара выбіраць акадэмікам*», – іранізаваў Максім Танк, маючы на ўвазе, што акадэміку самому пісаць неабавязкова. Вы – пішаце, нават вынайшлі свой аўтарскі жанр – меланж. Наколькі разумею, гэта геалагічны тэрмін.**

– Так, «меланж» азначае «сумесь». Вось і ў мяне жыццёвая сумесь атрымліваецца. Леў Талстой у свой час гаварыў, што самая цікавая літаратура – непрыдуманая.

**– Леў Мікалаевіч яшчэ казаў: «Пяром за жыццём не паспееш». А вы паспяваеце?**

– Не паспяваю, на жаль. Мне ж на працу трэба хадзіць. А на кнігі мае сапраўды шмат прыхільных водгукаў. Скажам, нашай суседцы так спадабаўся мой меланж, што яна неяк заявіла: «Кідайце вы тую геалогію, пераключайцеся цалкам на літаратуру!»

**– Свой прыхільны чытач не ў кожнага пісьменніка ёсць. А хто вас падштурхнуў на цярністы літаратурны шлях?**

– У Бельску на Падляшшы выдаецца беларускі часопіс «Тэрмапілы», які рэдагуе Ян Чыквін. Дык вось ён і яго жонка Галіна Тварановіч мяне і падштурхнулі. І працягваюць штурхаць. Раней я па начах пісаў, а цяпер ужо цяжкавата.

### «Жонку Галіну я на лыжні знайшоў»

**– Вы на 90 ніяк не выглядаеце. Што дапамагае не зважаць на гады?**

– Штораніцы раблю зарадку, усё жыццё любіў катацца на лыжах. Але сталі ногі балець.

**– У вашага земляка, магілёўца Ігара Шклярэўскага, ёсць верш пад назвай «Жалоба счастья»: «*Руки болять! Ноги болять! / Жито поспело. Бульбу копать. / Бульбу вскопали. Дровы пилить. / Клюкву мочить. Сад утеплять. / Руки болять! Ноги болять!*» Шчасце – ад працы.**

– Тут я са Шклярэўскім згодны – ні дня не магу без працы сядзець. А папрацуеш – і сапраўды шчаслівейшым робішся.

**– А жонку, Галіну Рыгораўну, вы на працы знайшлі?**

– Не, на лыжні. Адпачываў у прафілакторыі, рабіў на лыжах па 20–30 кіламетраў штодзень. І неяк на лыжнай прагулцы мы і сустрэліся. Галя каталася з адным прафесарам, і ў яе лыжа звалілася з нагі. Я кінуў вокам – якая прыгожая маладзіца! Хуценька нахіліўся, прычапіў лыжу, атрымаў як узнагароду прыветлівую ўсмешку. А ў прафілакторыі штовечар ладзіліся танцы. Гляджу – і мая лыжніца там. Мы з ёй патанцавалі, пагутарылі. А жыў я ў прасторным нумары, да мяне сябры па вечарах прыходзілі. Я і Галю запрасіў. Так і сталі сустракацца. Хутка сорак гадоў разам.

**– Вы былі дырэктарам у інстытуце, а дома – таксама кіравалі?**

– Не, дома ў нас дырэктар – Галя. І фінансавы, і па гаспадарчай частцы. А я і ў інстытуце не любіў быць камандзірам. За ўвесь час свайго дырэктарства я ніколі нікому не абʼявіў ніводнай вымовы. А ў хаце я цалкам падначалены, Галя мною камандуе, часам залішне строжыцца. Але нічога – пацалуемся, і ўсё ў парадку.

**– Гадоў пяць таму вы апублікавалі перапіску вашых бацькоў – Гаўрылы і Ларысы Гарэцкіх. У тых лістах столькі пяшчоты, ласкавых зваротакаў, што проста дзіву даешся, як можна такое каханне пранесці праз усё жыццё.**

– У мамы з татам было незвычайнае, дзівоснае каханне. Мне проста пашанцавала быць сынам такіх бацькоў. Памятаю, бацьку 87, маме на два гады менш, а яны на канапе сядзяць, за рукі пабраўшыся…

**– А адкуль вашы бацькі ўзялі такое імя – Радзім? Яго няма ў беларускіх імянніках.**

– Імя Радзім сапраўды вельмі рэдкае, але паходзіць яно са старажытных часоў. Жылі калісьці два браты – Радзім і Вятка, прыйшлі на нашы землі з Карпацкіх гор. Радзім застаўся на Сажы, і ад яго пайшло племя радзімічы. А Вятка пайшоў далей і заснаваў племя вяцічы. Выдавецтва «Тэхналогія», дзе галоўным рэдактарам Зміцер Санько, выдала невялічкі беларускі іменнік, дык там ужо Радзім ёсць!

### «Майго бацьку пяць разоў садзілі, двойчы прыгаворвалі да найвышэйшай меры»

**– Вы акадэмік геалогіі, але яшчэ і руплівы летапісец свайго роду. Я маю на ўвазе вашу кнігу «Браты Гарэцкія» (2008) – пра Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх, дзе падрабязна даследавана радаводнае дрэва, апублікавана шмат невядомых дакументаў. Што вам давала і дае адчуванне роду?**

– Мне ўсцешна, што ў мяне былі такія бацькі. Бацькоў не выбіраюць, сам Бог іх дае. Пазней я даведаўся, што ў мяне яшчэ і такі выдатны дзядзька Максім ёсць.

**– А вы не з самага маленства гэта ведалі?**

– На жаль, не. Дзядзька Максім бачыў мяне зусім малога, я ж нарадзіўся напрыканцы 1928 года. А ўжо ў 1930-м яго забралі, і больш я яго ніколі не бачыў. Мяне вывезлі з Беларусі ў трохгадовым узросце, а вярнуўся я толькі ў 1971-м – амаль праз 40 гадоў! Мае бацька і маці, дзе б яны ні жылі, міжсобку размаўлялі толькі па-беларуску. Усё самае лепшае, паводле бацькавых слоў, было толькі ў Беларусі, у роднай Багацькаўцы. Мяне многія рэчы проста дзівілі. Скажам, бацька сядае есці і захапляецца: «Ах, якая смачная крупеня! Ну як у Багацькаўцы!» Вінаграду ніколі не еў. Я пытаюся: «Тата, чаму ты не ясі вінаград, ён жа такі смачны, спажыўны». – «Вінаград у нас у Багацькаўцы не рос, дык я яго і не люблю».

**– У згаданай кнізе вы апісалі свой паход у КДБ, дзе вам удалося паглядзець справу Максіма Гарэцкага. Нягледзячы на тое, што ваш дзядзька быў расстраляны, а бацьку некалькі разоў прыгаворвалі да расстрэлу, ваша апісанне вытрымана ў добразычлівым тоне...**

– Гэта, мабыць, у мяне ад бацькі. Бацьку і білі там, і садзілі ў карцар, і ліха ведае што вытваралі... Неяк у 1938 годзе ён нават папрасіў маці, каб перадала яму лязо – хацеў скончыць жыццё самагубствам. Столькі ён выцерпеў ад той сістэмы!.. Пяць разоў яго садзілі! Двойчы прыгаворвалі да найвышэйшай меры! Ён цудам уратаваўся. І ўсё роўна, калі яго выпусцілі, быў надзіва добразычлівым чалавекам. Ён не меў злосці ні на ўладу, ні на кога. А калі я на пачатку 1990-х зайшоў у будынак КДБ, у мяне – халадок па спіне. Гэтым жа калідорам бацьку вялі, тут тысячы нашых людзей збівалі... А хлопцы там сапраўды вымуштраваныя, ветлівыя. Мяне яшчэ вельмі ўразіла сцэна ў буфеце, калі я пайшоў перакусіць. Здаровы палкоўнік бярэ там нейкі салацік і больш нічога. Бо і ў іх тады грошай не было, як і ў мяне.

**– Янка Брыль прыгадваў, як яны з Алесем Адамовічам упрошвалі акадэміка Гаўрылу Гарэцкага напісаць успаміны пра сваё жыццё, а той адказваў: «Пішыце пра Максіма!» Ваш бацька саступаў пальму першынства родавай славы Максіму Іванавічу?**

– Бацька быў вельмі сціплым чалавекам. Для яго Максім быў, можна сказаць, абразом. Дарэчы, я сам быў сведкам, як да бацькі настойліва звяртаўся Уладзімір Караткевіч. Ён вельмі хацеў напісаць пра яго раман, але бацька нізавошта не згаджаўся і казаў прыкладна тое ж: пішыце пра Максіма.

### «Мая прынцыповая пазіцыя – хата Гарэцкіх павінна застацца ў Багацькаўцы»

**– Вы склалі радаводнае дрэва Гарэцкіх. Колькі каленаў на сёння яно налічвае?**

– Дзесяць. Род Гарэцкіх быў моцны, яшчэ дзед Максіма, Кузьма, пражыў 100 гадоў.

**– Ваш род заслугоўвае самага паважнага дзяржаўнага ўшанавання. Але ў сталіцы няма музея Гарэцкіх, маленькі музей – хата, у якой нарадзіліся Максім і Гаўрыла, – ёсць толькі ў Малой Багацькаўцы на Мсціслаўшчыне, да якой яшчэ даехаць трэба. Чыя заслуга, што хоць такі музей зʼявіўся?**

– Гэта цэлая гісторыя. У 1985 годзе выйшла кніга Караткевіча пра Мсціслаў, дзе якраз і была выказана прапанова стварыць музей у Багацькаўцы. І гэта дайшло да другога сакратара ЦК КПБ Аляксандра Кузьміна. Ён як куратар Акадэміі навук неяк падыходзіць да мяне: «Трэба зрабіць музей усіх Гарэцкіх на вашай радзіме». Усе Гарэцкія – гэта Максім Гарэцкі, акадэмік Гаўрыла Гарэцкі і я – тады ўжо таксама акадэмік. Я параіўся з бацькам і пачуў катэгарычнае: «У Багацькаўцы павінен быць музей Максіма!» Кузьмін (у нас былі даверлівыя адносіны) прызнаўся, што на такі музей патрэбны дазвол Масквы, які атрымаць наўрад ці ўдасца. «Таму, – сказаў ён, – як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР па Мсціслаўскай акрузе я бяру ўсю адказнасць на сябе».

**– Рызыкаваў.**

– Вядома ж, рызыкаваў. Але – дамовіўся з тагачасным першым сакратаром Мсціслаўскага райкама Катушкіным, той даў загад старшыні калгаса, і пайшла будоўля!.. Пару разоў мы з Кузьміным ездзілі паглядзець, як ідуць справы. Ехаць з ім было адно задавальненне – міліцыянты толькі казыралі на скрыжаваннях. А адчынялі музей якраз на 100-годдзе Максіма Гарэцкага – у 1993-м. Кузьмін быў ужо на пенсіі, у той час вельмі важнай персонай быў Ніл Гілевіч, ён і ўдзельнічаў у адкрыцці.

**– Апошнім часам ходзяць чуткі, што музей з Багацькаўкі хочуць перавезці ў Мсціслаў. Як вы да такой ідэі ставіцеся?**

– Мая прынцыповая пазіцыя – хата Гарэцкіх павінна застацца ў Багацькаўцы. Ніхто ж не збіраецца музей Пушкіна з Міхайлаўскага перавозіць у Пскоў, ці музей Талстога з Яснай Паляны – у Тулу. Праблема ў тым, што хата ў Багацькаўцы не даглядаецца, не ацяпляецца, у вёсцы ўсяго некалькі чалавек засталося.

**– Музей Адама Міцкевіча ў Завоссі ўвогуле ў чыстым полі стаіць.**

– І ўсе туды ездзяць. І ў Багацькаўку маглі б ездзіць.

**– Чыноўнікі гавораць пра малую наведвальнасць музея ў закінутай вёсцы. А вось у Мсціславе гэта праблема нібыта знікне.**

– Раней і ў Багацькаўцы наведвальнікаў шмат было. Трэба ж зацікаўліваць людзей, арганізоўваць экскурсіі. А мсціслаўскім уладам той музей, як кажуць, да лямпачкі. Мне тэлефанавала Людміла Кірыенка, загадчыца Мсціслаўскага гісторыка-археалагічнага музея. Маўляў, ужо і месца добрае ў горадзе знайшлі... Але як перавозіць? Раскідаюць хату, а раптам яе шашаль патачыў? І што тады? Ні ў Багацькаўцы, ні ў Мсціславе нічога не будзе. Хай лепш хата застаецца на месцы. Дарога туды добрая – у свой час Васіль Лявонаў дапамог заасфальтаваць.

### «Беларуская нацыянальная хвароба лёгка лечыцца»

**– Другі сакратар ЦК КПБ Кузьмін, першы сакратар Мсціслаўскага райкама Катушкін, кіраўнік Магілёўскай вобласці Лявонаў – усе яны разумелі, хто такі Максім Гарэцкі і навошта патрэбны ягоны музей. А цяперашнія кіраўнікі, як выглядае, не разумеюць?**

– На словах і яны разумеюць. Называюць Максіма Гарэцкага класікам, нашым гонарам і г.д. Словы добрыя, але яны чамусьці ў справы не ператвараюцца. Вось калі б мсціслаўскім уладам Наталля Качанава, якая на спектакль «Дзве душы» ў Купалаўскі тэатр прыходзіла, падказала... Гэта быў бы штуршок, які прымусіў бы чыноўнікаў на месцы нешта ў Багацькаўцы рабіць.

**– «Дзве душы» ўжо гады два ў рэпертуары Купалаўскага. Максім Гарэцкі як у корань глядзеў: дзве мовы, дзве рэлігіі, нават саюзаў пісьменнікаў у нас два. Дзвюхдушнасць беларуса – гэта ўсё ж нешта хваравітае. Як нам ад яе пазбавіцца?**

– Раскажу вам адну гісторыю, якая і будзе адказам на ваша пытанне. У Акадэміі навук праходзіла юбілейная сесія, прысвечаная 100-годдзю былога прэзідэнта АН Васіля Купрэвіча. Адкрыў пасяджэнне тагачасны віцэ-прэмʼер Уладзімір Русакевіч, нечакана для ўсіх – па-беларуску. За ім выступалі прэзідэнт НАН Леанід Сушчэня, другія акадэмікі – таксама на роднай мове. Упершыню. Усе шушукаліся: што здарылася? Аказалася, было распараджэнне зверху. Я падышоў да прэзідэнта і кажу: «Які карысны для беларусаў прымус, асабліва такі добры, як сёння». І Сушчэня са мной пагадзіўся.

**– Дык і днямі падобная сітуацыя паўтарылася. Міністр спорту і турызму Сяргей Кавальчук на ўрачыстым закрыцці футбольнага сезона, пачуўшы выступленне прэмʼер-міністра на беларускай мове, тут жа сарыентаваўся: «Калі начальнік па-беларуску, то і я павінен».**

– Вось бачыце. Так што названая вамі хвароба пры жаданні лёгка лечыцца.

ЗА ОКЕАНОМ

## Сколько нелегалов на самом деле живет в США

### И чем они занимаются

По оценке исследовательского центра Pew, сейчас в США живут около 11,3 миллиона нелегалов. Это меньше, чем 10 лет назад, когда их было 12,2 миллиона. Более половины – уроженцы Мексики, около 15% из других стран Латинской Америки, сообщает CBSnews.

Подсчитано, что более 8 миллионов нелегалов работают, составляя 5% всей рабочей силы США. Живут нелегалы практически во всех штатах, наиболее сконцентрированы в пограничных Калифорнии и Техасе, а также в Неваде.

Министерство сельского хозяйства полагает, что 53% всех работников ферм – нелегалы. В строительстве их 15%, на производстве и в сфере обслуживания – примерно по 9%.

Исследования организации Cornell Farmworker Program показывают, что потребность в таких работниках в последующие годы будет только возрастать. Особенно с учетом того, что 71% американцев не хотят трудиться на таких работах.

В строительстве требуется дополнительно около 150 тысяч человек, а на работах по обслуживанию вышедших на пенсию бэби-бумеров – более 800 тысяч. Как показало исследование, если уменьшить наполовину количество нелегалов, работающих на молочных фермах на северо-западе страны, то закроются более 3500 таких ферм, значительно снизится производство молока, и цены на него подскочат на 30%. А если депортировать их всех, то цены на молоко вырастут на 90%.

ЗНАЙ НАШИХ!

## Белорусский правозащитник получил французскую премию

*Премия Французской Республики за вклад в защиту прав человека «Свобода–Равенство–Братство» была присуждена Леониду Судаленко.*



В год 70-й годовщины принятия Всеобщей декларации прав человека и 20-й годовщины Декларации о правозащитниках Национальная консультативная комиссия по правам человека, отвечающая за присуждение премии, приняла решение отметить защитников прав человека. Жюри премии, состоящее из представителей гражданского общества, являющихся членами Французской Национальной консультативной комиссии по правам человека, выносит свои решения совершенно независимо от административной или государственной власти.

Кроме Леонида Судаленко премию получили еще четыре лауреата.

Вручение премии состоится 10 декабря в Международный день защиты прав человека.

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## «(Не)свая краіна»

### Адам Міхнік адкажа...

*17 снежня Лятучы ўніверсітэт і Галерэя TUT.by запрашаюць абмеркаваць вострыя пытанні сучаснасці з легендарным польскім дысідэнтам, грамадскім дзеячам і журналістам **Адамам Міхнікам**.*

**Адам Міхнік** – адзін з выбітных дзеячаў эпохі злому камуністычнай сістэмы Польшчы, чые погляды і пазіцыя нон-канфармізму і сёння не страцілі актуальнасці, – наведае Мінск у межах фестывалю дакументальных фільмаў пра правы чалавека WATCH DOCS Belarus 2018. Ён з'яўляецца галоўным героем аднаго з фільмаў фестывалю. Заснавальнік Gazeta Wyborcza, якая на працягу амаль 30 гадоў застаецца адным з галоўных польскіх медыя, спадар Міхнік па-ранейшаму «патрабуе немагчымага», рухаецца супраць плыні і адстойвае свае ідэалы і каштоўнасці.

17 снежня Адам Міхнік выступіць перад мінскай публікай, разважаючы пра ўстаноўкі, лад жыцця і дзеянні грамадзяніна, які вымушаны жыць ва ўмовах "(не)сваёй краіны". Пасля злому таталітарных рэжымаў паняцце "дысідэнт" павінна было сысці з гістарычнай і палітычнай сцэны. Але беларуская рэчаіснасць і аўтарытарны рэванш у некаторых еўрапейскіх краінах наноў ставяць пытанне аб магчымасці рэалізаваць свае каштоўнасці і ўстаноўкі ў межах легальнага грамадскага і палітычнага працэсу. Зноў нас яднаюць пытанні, якія кожны грамадзянін і чалавек задае сабе. Межы кампрамісу і калабарацыі, дылема эміграцыі і патрыятызму, індывідуальныя стратэгіі і салідарныя дзеянні – асноўныя пытанні, якія будуць абмеркаваны ў выступленні.

Колькасць месцаў абмежавана.

Для ўдзелу неабходна зарэгістравацца.

КРУПНЫЙ ПЛАН

## Председатель Белкоопсоюза Валерий Иванов купит для жены шубу из коллекции Анжелики Агурбаш

В минувшем году Анжелике Агурбаш во время выставки «Белагро» на стенде Белкоопсоюза предложили примерить шубку. Она удивилась качеству белорусского меха и в то же время весьма скромному и не очень современному дизайну шуб. Анжелике предложили выступить в качестве дизайнера.

«*Подготовка к работе над новой коллекцией велась больше года,* – рассказала Анжелика. – *Первым делом проводился мониторинг изделий ведущих компаний по производству одежды из меха, начиная от известных мировых брендов до российских и белорусских производителей. Анализировались рынки сбыта и продаж, изучался спрос и предпочтения покупателей…*

*Свои первые модели я создала исключительно для себя. Потом подумала о своих подругах разных возрастов и комплекций, знакомых, живущих в Минске, Москве, Монако, Лос-Анджелесе. Вспомнила о звездных коллегах, о своих детях, которые сегодня совсем уже не дети, а молодые высокообразованные специалисты, продвинутая молодежь, ведущая активный образ жизни, умеющая хорошо и много работать, а также качественно и интересно отдыхать.*

*Вот так и получилась моя первая коллекция! Яркая, смелая, стильная. Эффектная, и в то же время доступная и многофункциональная. На все вкусы и на все случаи. Коллекция для тех, кто любит спорт и шик и, конечно же, никогда не выходящую из моды элегантность и простоту, умноженную на универсальность и практичность*».



Вчера прошла презентация коллекции меховых изделий певицы Анжелики Агурбаш.

Председатель Белкоопсоюза **Валерий Иванов** признался «Народной Воле», что купит своей жене шубку именно из коллекции Анжелики Агурбаш.

– *Обязательно приобрету, но пока еще не определился, какую именно,* – с улыбкой сказал Иванов. – *Что останется после продажи – из того и выберу.*

**– А зарплаты председателя Белкоопсоюза хватит на норковую шубу?**

– *Думаю, да. К тому же у нас очень хорошие условия для работников, есть рассрочка. А вообще, у настоящей женщины должно быть три шубы.*

**– У вашей жены именно столько?**

– Пока нет…

**Марина КОКТЫШ.**

СЛЫШАЛИ?

## Люксембург станет первой страной в мире с бесплатным общественным транспортом

*Плату за проезд в автобусах, трамваях и пригородных поездах герцогства отменят летом 2019 года. Так власти хотят бороться с пробками и ухудшением экологии, сообщает The Guardian.*

Изменения инициировал премьер-министр Ксавье Беттель. Во время недавней избирательной кампании он пообещал, что будет уделять основное внимание проблемам окружающей среды.

Герцогство страдает от серьезных пробок. В 2016 году водители в столице провели в заторах в среднем 33 часа. В стране живут 600 тысяч человек, еще 200 тысяч жителей соседних стран ежедневно приезжают на работу.

Чтобы решить проблему, Люксембург начал плавный переход к новой системе. Летом правительство разрешило детям и подросткам до 20 лет пользоваться общественным транспортом бесплатно. Ученики школ в Люксембурге могут доехать домой из школы и обратно без билета. Взрослые пассажиры платят два евро за поездку короче двух часов.

Площадь Люксембурга – 2586,4 кв.километра, что делает государство одним из самых маленьких в Европе.

Власти страны пока не решили, делать ли бесплатным проезд в первом и втором классе поездов. Единого мнения об этом нет.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## 600 здымкаў, якія раней нідзе не публікаваліся

*Гісторык, кандыдат навук **Ігар Мельнікаў** запрашае на прэзентацыю сваёй чарговай кнігі – "Другая сусветная вайна на здымках з архіва Ігара Мельнікава".*

– На вялікі жаль, доўгі час у савецкай і беларускай гістарыяграфіі, а таксама ў грамадскай свядомасці існавала стэрэатыпнае меркаванне пра тое, што Другая сусветная вайна пачалася для Беларусі ў чэрвені 1941 года, – кажа гісторык. – Вайна на беларускія землі прыйшла 1 верасня 1939 года, калі нацысцкая Германія напала на Польшчу, у складзе якой на той момант знаходзіліся Віленскае, Навагрудскае, Беластоцкае і Палескае ваяводствы, дзе пражывала вялікая колькасць беларусаў.




З першых дзён Другой сусветнай тысячы беларусаў уступілі ў шэрагі Войска Польскага, Пінскай рачной флатыліі, Корпусу аховы памежжа і мужна біліся супраць немцаў на розных франтах Верасьнёўскай кампаніі 1939 года. Аднак і Усходняя, савецкая, Беларусь не заставалася ўбаку ад падзей, якія разгортваліся ў суседняй дзяржаве. Падраздзяленні Чырвонай Арміі, якія размяшчаліся на тэрыторыі савецкай Беларусі, былі прыведзены ў поўную баявую гатоўнасць, адбывалася мабілізацыя прыпіснога складу, у крамах зніклі соль і запалкі, а савецкія беларусы пацягнуліся ў ашчадныя касы і банкі і пачалі здымаць грашовыя ўклады.

17 верасня 1939 года, увёўшы свае войскі на тэрыторыю ўсходніх раёнаў Польшчы, СССР фактычна ўступіў у Другую сусветную вайну. Нягледзячы на пераможныя рэляцыі савецкіх штабістаў і журналістаў, тая "міратворчая аперацыя" стала цяжкім выпрабаваннем для Чырвонай Арміі. На лініі савецка-польскай мяжы адбыліся жорсткія баі паміж польскімі вартавымі мяжы з Корпусу аховы памежжа і савецкімі войскамі.

Перыяд з восені 1939-га па чэрвень 1941 года не быў спакойным для заходніх абласцей савецкай Беларусі. У гэты час тут адбываліся арышты так званага "польскага кантынгенту", дэпартацыі "кулакоў", саветызацыя і русіфікацыя мясцовага насельніцтва. Але праз два гады вайна зноў прыйшла на беларускія землі. Былы хаўруснік Іосіфа Сталіна Адольф Гітлер вырашыў стаць адзінаўладным гаспадаром Еўропы і ліквідаваць крамлёўскага канкурэнта. У выніку беларусам ізноў прыйшлося расплачвацца сваімі жыццямі за геапалітычныя гульні дыктатараў.

*Альбом "Другая сусветная вайна на здымках з архіва Ігара Мельнікава" складаецца з фотаздымкаў, большасць з якіх паходзяць з прыватнай калекцыі аўтара і ніколі раней не публікаваліся. Выданне падзелена на раздзелы, складаецца з 168 старонак, на якіх апублікавана больш за 600 здымкаў.*

*Прэзентацыя адбудзецца 10 снежня 2018 года ў 19.00 у Галерэі TUT.BY (Мінск, пр.Дзяржынскага, 57). Уваход вольны!*

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

УРОКИ ИСТОРИИ

## …Извлекли из могилы его труп и казнили уже мертвого

Немецкий философ Георг Гегель утверждал, что общество развивается по спирали. От низшей стадии к более прогрессивной.

Но часто эта спираль, сделав виток, снова заканчивается тем же этапом, с которого она начиналась. К такому выводу философ Гегель (1770–1831) пришел, наблюдая за соседней Францией и ее буржуазной революцией 1789–1794 годов. На глазах у будущего философа разыгрывалась французская трагедия: королевская семья Бурбонов была гильотинирована.

Французская революция дала феодальной Европе прогрессивный девиз «Свобода, равенство, братство!». Центростремительная сила этой спирали вознесла на пик истории генерала Наполеона Бонапарта. Он так напугал монархов европейских стран, что те после неудачного похода Наполеона в Россию объединились и вернули Бурбонов на королевский трон во Франции. Так закончился виток французской спирали – тем же, с чего начался.

Веком раньше подобное случилось в феодальной Англии: казнь короля Карла I из династии Стюартов, переход страны от феодализма к капитализму. Там спираль вынесла на вершину власти Оливера Кромвеля, который, как и Наполеон во Франции, оказался возмутителем спокойствия в парламенте. Вспыхнула гражданская война с массовыми жертвами. В результате Кромвель оказался единоличным диктатором, правил несколько лет. А когда умер, его сын Ричард попытался продолжить дело отца, но поскольку не обладал диктаторскими качествами, то буквально через полгода его лишили власти, править стали бывшие сторонники Кромвеля-старшего. И английская спираль закончилась тем же, с чего и началась: была восстановлена на престоле монархия Стюартов.

Как английская, так и французская спираль была сопряжена с массовыми жертвами. Но английская спираль для нас любопытна тем, что в результате возникла семейственность.

В XX веке бросили вызов всему мировому сообществу спирали двух стран – России (вернее СССР) и Германии. Последняя в своем стремлении к мировому господству ухватилась за фашистскую спираль, самую агрессивную и человеконенавистническую, чем вызвала всеобщий и усиленный отпор народов пяти континентов. В результате фашистская спираль оборвалась через пятнадцать лет, произошел полный крах. Впрочем, на своем последнем витке она в агонии боролась с советской. И последняя загнала свой ржавый гвоздь в ее гроб в годы Второй мировой войны, приведшей к невиданным массовым жертвам.

Что же касается российской, или советской, спирали, то она, похоронив неразвитый полуфеодальный капитализм в октябре 1917 года и сделав 70-летний виток, снова уперлась в капитализм. Только теперь уже дикий, олигархический, который опирается на неразвитую сырьевую базу страны, бездумно бредящей о своем величии и могуществе. Впрочем, об этой черте русского мужика со всей страстью высказался писатель Александр Солженицын: «*И за сохранение этого статуса Россией рядовой русский готов пожертвовать собственной жизнью, жизнями своих родителей и детей*». В итоге, по словам того же Солженицына: «*Приходится признать: весь XX век жестоко проигран нашей страной: достижения, о которых трубили, все мнимые. Из цветущего состояния мы отброшены в полудикарство. Мы сидим на разорище*».

Советская спираль (или как ее нынче унизительно называют «совковая») отличается от своих западных предшественниц не только многократным превосходством своего исторического срока. Те продолжались по 10–15 лет, а эта растянулась более чем на 70, с 1917-го по 1991 год.

За этот период советская (большевистская) спираль проделала несколько витков, и каждый отличался от предыдущего своей жестокостью и насилием. Началась она с революции, перешедшей в кровопролитную гражданскую войну. Потом был полуголодный и менее насильственный военный коммунизм, когда у крестьянина власть отнимала последний кусок хлеба, что вызывало массовые протесты и стихийные бунты. Тут власть одумалась и дала отдушину – нэп. За этим коротким витком начался самый унизительный и циничный – колхозно-совхозный, когда крестьянин снова оказался ограбленным и бесправным, превратившись по сути в крепостного.

Опутанный, как несмышленый ребенок, сетями той совковой спирали, трепыхался 70 лет и белорусский народ. Но когда он выскользнул из них, то не смог сразу сообразить, куда ему податься. И тут же запутался в ошметках сетей старой спирали. В настоящее время мы, белорусы, находимся на витке, который можно обозначить как колхозно-совхозный. Сколько нам придется томиться в его паутине – трудно сказать. Пока идет накопление критической массы.

***

Ну, а теперь встает естественный вопрос: какова же судьба тех смутьянов, которые начинали раскручивать спирали?

Об участи автора совковой спирали (на нем она не закончилась) вы все прекрасно осведомлены: он спокойно спит вечным сном в Москве на Красной площади в уютном мраморном мавзолее.

Наполеон же отделался легким испугом даже после второй попытки восшествия на французский престол, и ему был милостиво подарен в постоянное пользование (пожизненно) остров Святой Елены, где он, как утверждают знатоки, изложил в своих мемуарах основы нынешнего Европейского Союза.

Главарь фашистской Германии Гитлер, согласно официальной версии, избежал публичной казни, и его труп был сожжен его же сторонниками во дворе собственного логова.

Самая же страшная участь постигла первого смутьяна из этой когорты – Оливера Кромвеля. Англосаксы проявили к этой выдающейся личности такую нечеловеческую ненависть, что после его смерти извлекли из могилы его труп и казнили уже мертвого.

**Вячеслав ВОЛЬСКИЙ.**



*10 декабря –*

# МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

***Чалавек, яго правы і свабоды -- найвышэйшая каштоўнасць***

РОЗДУМ

## Гэта яшчэ не перамога, але верны шлях да яе



2018 год унёс у змаганне за правы чалавека ў Беларусі новыя фарбы. Калі 2017 год праходзіў пад сцягам барацьбы за сацыяльныя правы – мы памятаем пра акцыі ў шматлікіх беларускіх гарадах супраць падатку на так званае дармаедства, дык сёлета на першы план выйшла барацьба за чыстае паветра, ваду, экалагічна прымальнае асяроддзе. У Брэсце і Светлагорску гэта супрацьстаянне мае зацяжны і пастаянны характар. У Брэсце будаўніцтва акумулятарнага завода, у Светлагорску запуск завода беленай цэлюлозы выклікалі мірныя пратэсты мясцовых жыхароў.

Абодва заводы будуюцца за кошт «выгадных» кітайскіх крэдытаў. Кошт завода ў Брэсце – прыкладна 20 мільёнаў еўра. Завод у Светлагорску значна даражэйшы, толькі праектны кошт – 700 мільёнаў еўра, не лічачы непрадбачаных расходаў на дапрацоўку хібаў пры будаўніцтве і запуску вытворчасці.

Будаўніцтва абодвух гэтых заводаў паказала сістэмныя праблемы, якія існуюць у Беларусі паміж уладамі і грамадствам. Існуюць даўно, але тут яны былі падкрэслены грамадскай актыўнасцю і рэльефна выдзеліліся на фоне агульнай грамадскай апатыі, страху і зняверання. Раптам стала ясна, што людзі жывуць самі па сабе, са сваімі клопатамі і трывогамі, а ўлады – самі па сабе, са сваімі планамі і задумамі. І людзі часта разглядаюцца ўладамі як бяздушны дадатак да гэтых планаў, працоўны рэсурс. Галоўнае – вал, прадукцыя, тысячы акумулятарных батарэй, дзясяткі тысяч тон цэлюлозы. А людзі ж няхай дзякуй скажуць, што ім даюць магчымасць працаваць абы-дзе і выжываць абы-як. Пра якую экалогію тут вядзецца гаворка?! У дзяржаве, якая ўкладвае грошы ў будаўніцтва прадпрыемстваў, цяжка казаць пра аб'ектыўны экалагічны кантроль гэтых заводаў. Бо ў нас няма незалежнай экалагічнай службы. Урэшце, як і пра іхнюю эканамічную эфектыўнасць (няўжо нядаўняя мадэрнізацыя дрэваапрацоўкі, а зараз – ільнозаводаў нічому не навучыла?). А хто адказвае за мільярды прафуканых еўра? Відавочна, што з такім «дзяржаўным» падыходам пра бяспеку ўмоў для свайго жыцця павінны клапаціцца самі людзі.

Выклікае трывогу і пастаянны ўсходні вектар брудных і небяспечных прамысловых аб'ектаў у Беларусі. Для пабудовы гэтых заводаў узялі крэдыты ў Кітая, для будаўніцтва Беларускай атамнай электрастанцыі – у Расіі. Зразумела, на такія «смярдзючкі» еўрапейскіх грошай не знайсці. Калі мы ўпарта паўтараем, што мы – еўрапейская краіна, дык, можа, тады давайце імкнуцца і жыць па еўрапейскіх стандартах? У тым ліку – не будаваць шкодныя для людзей і прыроды прадпрыемствы.

У такой дзяржаве, як наша Беларусь, дзе ўсё кантралюе прэзідэнт і ягоная выканаўчая вертыкаль, любая нязгода з уладамі – ці то сацыяльныя акцыі, як у мінулым годзе, ці то экалагічныя, як сёлета, – адразу ўспрымаецца як палітычны супраціў. Згадваецца показка яшчэ савецкіх часоў пра пеўня, які трапіў у турму за тое, што піянера ў азадак дзеўбануў. Тое часта адбываецца і зараз.

Мясцовыя жыхары сабралі подпісы супраць будаўніцтва шкодных і небяспечных заводаў і перадалі ў адміністрацыю. У Брэсце – 36.809, у Светлагорску – 10.191 подпіс. Улады адмахнуліся ад іх, як быццам бы нічога і не было. Колькі ж упэўненасці ў сваёй беспакаранасці трэба мець, каб не зважаць на голас дзясяткаў тысяч людзей!

Але людзі не спыніліся. У Брэсце кожную нядзелю ў гэтым годзе ідзе мірны флэшмоб. На цэнтральнай плошчы Леніна збіраюцца дзясяткі, а то і сотні чалавек, і ў знак пратэсту супраць будаўніцтва завода акумулятарных батарэй ідзе «кармленне галубоў». Такі маўклівы і падкрэслена мірны пратэст.

У Светлагорску 15 верасня 2018 года больш за 200 чалавек сабраліся вакол цэнтральнай плошчы горада. Людзі прыйшлі ў медыцынскіх павязках і з зялёнымі шарыкамі. Мясцовыя ўлады, каб сарваць гэтую мірную акцыю, павялі сябе вельмі цынічна. Яны вывелі на плошчу дзяцей, якія танцавалі і пускалі ўгару чырвоныя шары. Гэткім быў адказ улад на экалагічны пратэст.

І ў Брэсце, і ў Светлагорску, здавалася б, непалітычныя акцыі сутыкаюцца з забаронай і абмежаваннем грамадзянскіх правоў, у прыватнасці права на мірныя сходы. Любімая фраза царскіх жандараў «Больш за трох не збірацца» стала залатым правілам для беларускіх выканаўчых улад. У Светлагорску на адзінае адведзенае выканкамам для мітынгаў і сходаў месца – стадыён «Папернік», які стаіць у лесе за высокім бетонным плотам, – ініцыятыўная група падала сёлета 11 (!) заявак на правядзенне мітынгаў і пікетаў супраць будаўніцтва завода беленай цэлюлозы. І не атрымала ніводнага дазволу! Стадыён часта стаіць пусты, паміж соснаў бегаюць вавёркі, а светлагорцам сабрацца, пагаварыць на жыццёва важныя і балючыя для іх праблемы – аніні. Улады баяцца людзей. Якія далёкія яны ад народа!

У выніку актывісты гэтых экалагічных кампаній пратэсту, блогеры і журналісты, якія асвятляюць акцыі пратэсту, праваабаронцы, якія дапамагаюць актывістам, часта пераследуюцца. Улады спрабуюць дыскрэдытаваць іх, ціснуць на іх, судзяць, штрафуюць, садзяць на суткі, урываюцца ў памяшканні, але праз гэта канчаткова губляюць рэшткі павагі да сябе. Гэта небяспечная гульня – пляваць на народ і лічыць, што ён можа вытрымаць любы здзек і прынуку.

«Чаго ж дабіліся людзі, апроч штрафаў ды іншых пакаранняў за сваю актыўнасць?» – спытае песіміст. Дабіліся! Мінскія цэнтральныя ўлады, якія рабілі выгляд, што нічога не адбываецца, былі вымушаны даць задні ход. І па адным і па другім праекце будаўніцтва шкодных заводаў прызначана паўторная экалагічная экспертыза, якую будзе праводзіць Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Вытворчасць у Светлагорску беленай цэлюлозы прыпынена, урэшце будзе закуплена абсталяванне для вымярэння забруджвання паветра. Міністэрства прызнала, што смярдзючыя газы, якія ўтвараюцца на вытворчасці, увогуле не павінны трапляць у паветра. Гэта яшчэ не перамога, але верны шлях да яе.

У гэтым годзе групы экалагічных актывістаў Брэста і Светлагорска, адстойваючы сваё права на чыстую зямлю і паветра, паказалі ўсім нам, дзевяці з паловай мільёнам беларусаў, якія жывуць у Мінску і Наваполацку, у Чарнобыльскай зоне і каля Беларускай АЭС, як трэба змагацца за свае правы.

**Алесь БЯЛЯЦКІ, праваабаронца.**

ПРАТЭСТ

## За права дыхаць чыстым паветрам

### Гісторыя праблемы

Рашэнне пра будаўніцтва ў Светлагорску за кітайскі крэдыт завода беленай цэлюлозы магутнасцю 400 тысяч тон у год было прынята на вышэйшым дзяржаўным узроўні яшчэ на пачатку 2012 года. У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам і згодна з патрабаваннямі ратыфікаванай Беларуссю Орхускай канвенцыі тады ж былі праведзены першыя грамадскія слуханні па ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе.

Зала была перапоўнена, усе, хто браў слова, выказваліся катэгарычна супраць прапанаванага будаўніцтва, усе, акрамя кіраўніцтва камбіната, у які ўваходзіць завод, і чыноўнікаў райвыканкама.

Але слуханні не былі запратакаліраваны. І невыпадкова. Улады арганізавалі паўторныя слуханні, у залу на гэты раз прапускалі не ўсіх. Больш за пяцьдзясят жыхароў вёскі Якімава Слабада, чые дамы размешчаны ў непасрэднай блізкасці ад будучага завода, не былі дапушчаны на слуханні міліцыяй. Прадстаўнікоў недзяржаўных СМІ ў залу таксама не прапусцілі. Гэта прамое парушэнне Орхускай канвенцыі і правоў чалавека!

Тут жа кампетэнтныя ў пытаннях экалогіі актыўныя грамадзяне стварылі ініцыятыўную групу па супрацьдзеянні гэтаму будаўніцтву; у горадзе, перанасычаным хімічнымі прадпрыемствамі, экалагічная абстаноўка была і да таго неспрыяльнай. Яшчэ раней, у 1990-я гады, Савет міністраў Беларусі прыняў рашэнне не развіваць у далейшым хімічную вытворчасць у Светлагорску.

Ініцыятыўная група ў кароткі час арганізавала збор подпісаў супраць будаўніцтва завода беленай цэлюлозы, і цягам месяца 10.191 чалавек падтрымаў акцыю. Арыгіналы падпісных лістоў былі накіраваны ў Адміністрацыю прэзідэнта Беларусі, копіі – у Савет міністраў і ў Амбасаду КНР.

Адказу з вышэйзгаданых устаноў не паследавала. Толькі з Савета міністраў паведамілі, што нашы подпісы перададзены ў канцэрн «Беллеспаперапрам». Тады быў пададзены іск у Светлагорскі раённы суд аб спыненні будаўніцтва завода. Вынік прадказальны – «рашэнне аб будаўніцтве ЗБЦ не пярэчыць беларускаму заканадаўству». Абскарджванне ў Гомельскім абласным судзе мела той жа вынік.

Да патрабаванняў светлагорцаў улады «прыслухаліся» – кітайскія спецыялісты завод пабудавалі, праўда, з трохгадовай затрымкай, з парушэннямі будаўнічых норм і правіл. Усё гэта таму, што «найвышэйшым» указам кітайцам было дазволена будаваць па нормах КНР.

Асобна неабходна адзначыць тое, што з пачатку 2013 года была ліквідавана добра абсталяваная, укамплектаваная кваліфікаванымі хімікамі-аналітыкамі, акрэдытаваная ў органах Дзяржстандарту экалагічная лабараторыя пры Светлагорскай інспекцыі Мінпрыроды. Матывацыя – скарачэнне адміністрацыйнакіруючага персаналу. А жыхары Светлагоршчыны не сумняваюцца, што ліквідацыя лабараторыі – гэта ліквідацыя магчымасці аператыўна адсочваць несанкцыянаваныя і нават дазволеныя выкіды ў атмасферу і раку Бярэзіну, канцэнтрацыі і аб'ёмы шкодных рэчываў.

Сябрамі ініцыятыўнай групы была арганізавана і высілкамі Усебеларускай грамадскай арганізацыі «Экадом» праведзена грамадская экалагічная экспертыза праекта. Заключэнне ўтрымівае каля трыццаці заўваг. Але яны нават не згадваюцца ў пераліку дакументаў, на якіх грунтавалася дзяржаўная экалагічная экспертыза будаўнічага праекта.

На сустрэчах з кіраўніцтвам камбіната і раёна, якія ініцыяваліся актывістамі, людзей запэўнівалі, што завод будзе працаваць па сучасных еўрапейскіх тэхналогіях і вытворчасць не будзе шкоднай для людзей і прыроды.





Алена Маслюкова ў памяшканні суда.

### Спробы пуску завода. Вынікі…

У лістападзе 2017 года на заводзе беленай цэлюлозы была зроблена першая спроба запусціць вытворчасць. І адразу пачаліся праблемы. Завод не хацеў «запускацца», замест бялюткай цэлюлозы і прыемных пахаў выдаваў толькі меркаптаны і іншую смярдзючую брыдоту, рэгулярна абдаваў Якімаву Слабаду і Светлагорск моцным смуродам з адценнем гнілой квашанай капусты і фекаліяў.

Жыхары Якімавай Слабады, нядоўга церпячы, пачалі грукацца ва ўсе інстанцыі, але не былі пачуты. 25 снежня, на самыя Каляды, каля 250 чалавек выйшлі на стыхійную акцыю пратэсту. Чаму? У вёсцы жыць станавілася немагчыма. Ад уедлівага смуроду не было дзе схавацца.

У медыцынскія ўстановы пасыпаліся скаргі на кепскае адчуванне: галаўны боль, ваніты, слёзацячэнне, удушша, пяршэнне ў горле, спазмы ў страўніку, крывацёку з носа і г.д. Недзяржаўныя СМІ адразу ж размясцілі інфармацыю пра тое, што адбываецца на заводзе і ў вёсцы. А потым пачаліся запалохванні людзей участковым міліцыянтам, які шукаў арганізатараў акцый і пагражаў штрафамі. Дайшло да таго, што 9 сакавіка 2018 года быў складзены адміністрацыйны пратакол на журналістку Ларысу Шчыракову, якая нібыта ў 8.00 хадзіла па вёсцы і брала інтэрв'ю ў жыхароў. Гэта пры тым, што журналістка два месяцы не была ў Якімавай Слабадзе. Неаднойчы прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці і караліся максімальнымі штрафамі журналісты «Белсата» Кастусь Жукоўскі і Андрэй Толчын, якія рэгулярна рабілі рэпартажы пра тое, што адбываецца вакол ЗБЦ, даводзілі людзям праўдзівую інфармацыю.

Змаганне доўжылася да канца лютага 2018 года. Нарэшце завод прыпынілі, кітайцы з'ехалі, народ уздыхнуў з палёгкай. А сябры ініцыятыўнай групы працягвалі весці перапіску з дзяржаўнымі ўстановамі, каб атрымаць праўдзівыя адказы на вялікую колькасць пытанняў, звязаных з функцыянаваннем гэтага «кітайскага падарунку».

Са студзеня па верасень адбыліся чатыры сустрэчы з кіраўніцтвам райвыканкама, прадстаўнікамі ЗБЦ, раённых органаў аховы здароўя, аддзела па надзвычайных сітуацыях, цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. У выніку пад ціскам грамадскасці чыноўнікі мусілі назваць хімічныя рэчывы, якія атручваюць жыццё мясцовых людзей. Для хімікаў і медыкаў гэтая інфармацыя не была сакрэтнай з самага пачатку, але афіцыйных пацвярджэнняў не было. Дарэчы, усе выкіды рабіліся несанкцыянавана, не спальваліся, а бескантрольна атручвалі ўсё наваколле. Ні распрацаваных сертыфікаваных методык вымярэння газавых выкідаў, ні газааналізатараў завод і кантралюючыя органы не мелі. Такім чынам, ні кіраўніцтва СЦКК, ні кантралюючыя органы не маглі забяспечыць права жыхароў раёна на праўдзівую экалагічную інфармацыю.

На пачатку ліпеня кітайскія спецыялісты пачалі другі этап пуску вытворчасці. Спецыялісты СЦКК пры гэтым прысутнічалі ў ролі вучняў-стажораў. Шкодныя рэчывы выкідваліся ў аб'ёмах, не меншых за зімовыя, нясцерпны смурод меркаптанаў светлагорцы перыядычна адчувалі нават за 10–20 кіламетраў ад завода. Пачаліся пратэсты жыхароў Якімавай Слабады. Сябры ініцыятыўнай групы за 2017–2018 гады падалі больш за 40 зваротаў, скаргаў і заяў як кіраўніцтву СЦКК і канцэрна «Беллеспаперапрам», так і ў дзяржаўныя кантралюючыя органы, навучальныя і навуковыя ўстановы. Гэта акрамя зваротаў жыхароў Якімавай Слабады і электронных лістоў.

На большасць гэтых дакументаў атрыманы адказы-адпіскі. З усёй перапіскі толькі ў адказе першага намесніка міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя сп. І.В.Малкінай утрымлівалася больш-менш праўдзівая інфармацыя. Нам стала вядома, што, «паводле праектнай дакументацыі па аб'екце, якая раней прайшла дзяржаўную экалагічную экспертызу, усе «смуродныя пахі» (метылмеркаптан і іншыя) павінны абясшкоджвацца без ажыццяўлення выкідаў у атмасфернае паветра… праектам не былі вызначаны аб'ёмы выкідаў метылмеркаптану… не меркавалася ажыццяўленне аналітычнага кантролю гэтых выкідаў». Смурод накрываў горад, людзі задыхаліся, вялі змаганне за права жыць у спрыяльным асяроддзі, баранілі здароўе сваё і сваіх блізкіх усімі даступнымі спосабамі.

### Заявы на мітынгі, флэшмоб, няскончаная судовая эпапея

Калі цярпенне людзей скончылася, сацыяльнае напружанне дасягнула крытычнай рысы, актыўныя грамадзяне падалі заяву на правядзенне мітынгу. На ім меркавалася высветліць усе хвалюючыя пытанні: абмеркаваць існуючую праблему, запатрабаваць ад улад прыняцця неадкладных мер па ліквідацыі шкодных выкідаў, прыпынення працы ЗБЦ да выпраўлення выяўленых непаладак і арганізацыі аналітычнага кантролю за атручваннем наваколля.

Але нашы канструктыўныя прапановы засталіся нерэалізаванымі. Жаданні людзей не супалі з «магчымасцямі» гарадскіх улад. У правядзенні мітынгу нам было адмоўлена. Замест мітынгу ўлады правялі экскурсію на ЗБЦ. Гэта было б надта добра, але на экскурсію дапусцілі толькі васьмярых сяброў ініцыятыўнай групы. Затое туды запрасілі больш за тры дзясяткі прадстаўнікоў так званай «групы адабрамса». І гэта акрамя шматлікіх чыноўнікаў усіх узроўняў і рангаў. Мы, ініцыятыўная група, у экскурсіі паўдзельнічалі, задалі хвалюючыя людзей пытанні, а ад дыскусіі на закрытай тэрыторыі адмовіліся, бо папярэдне мы паставілі ўмову нашага ўдзелу ў гэтым мерапрыемстве: дыскусія павінна быць праведзена на адкрытай пляцоўцы, у самай вялікай зале горада, каб туды маглі прыйсці і паўдзельнічаць як мага больш зацікаўленых грамадзян.

І тут пачалася «зваротная сувязь» з боку ўлад. Як толькі не называлі нас у афіцыйных СМІ! «Найміты Захаду» – гэта яшчэ не самы горшы ярлык. Асаблівую старанасць у такой «зваротнай сувязі» праявіла раённая газета «Светлагорскія навіны». Усімі метадамі, дазволенымі і забароненымі, сумленнымі і сумніўнымі, даводзіць яна людзям, што метылмеркаптан у малых канцэнтрацыях для здароўя не шкодны. Так працягваецца і да гэтага часу. Згаданая газета дапісалася нават да таго, што павялічыла ў 1000 (!) разоў гранічна дапушчальную канцэнтрацыю метылмеркаптану ў жылой зоне, зацверджаную Міністэрствам аховы здароўя. Памылкова ці наўмысна? Пытанне застаецца адкрытым. Карэспандэнту «Гомельскай праўды» А.Япішавай таксама смурод тыёлу падаўся пахам ружаў. А скаргу жыхароў горада на яе артыкул, якім абураліся большасць тых, хто прачытаў гэты опус, галоўны рэдактар газеты не задаволіў, палічыўшы напісанае Япішавай яе асабістым меркаваннем.

Арганізаваная экскурсія сітуацыю не выратавала. Атрымаўшы адмову на правядзенне мітынгу, каля 150 чалавек правялі на цэнтральнай плошчы горада стыхійны флэшмоб – акцыю маўклівага супраціву, апрануўшы на твары медыцынскія маскі і трымаючы ў руках зялёныя балончыкі. Мясцовая міліцыя абвінаваціла ў арганізацыі сходу актывістаў ініцыятыўнай групы, склала пратаколы за парушэнне Закона аб правядзенні масавых мерапрыемстваў. А суд, не запрасіўшы на працэс «сведак» – міліцыянтаў, паслухмяна аштрафаваў праваабаронцу Алену Маслюкову на 25, а грамадскага актывіста Анатоля Змітровіча – на 20 базавых велічынь. Пакараныя шукалі праўды ў Гомельскім абласным судзе, але той пакінуў скаргі актывістаў без задавальнення.

Алена Маслюкова адзначае: *«У Светлагорскі райвыканкам агулам было пададзена яшчэ дзевяць заяў на правядзенне мітынгаў на спецыяльна адведзенай для гэтых мэт пляцоўцы – стадыёне «Папернік» – і атрымана столькі ж адмоў. Пры гэтым у трох выпадках адмовы абгрунтоўваліся правядзеннем гарадскіх мерапрыемстваў, якіх насамрэч не было (гэта 6, 20 і 21 кастрычніка)».*

Паказальным з'яўляецца той факт, што ў горадзе апошнія пару дзясяткаў гадоў ніякіх пікетаў, мітынгаў увогуле не арганізоўвалася і не праводзілася, а ў 2018 годзе літаральна за шэсць месяцаў былі пададзены ў райвыканкам дзве заявы на правядзенне пікетаў і дзесяць – на правядзенне мітынгаў.

Адмовы на правядзенне мітынгаў падтрымаў і Светлагорскі раённы суд: усе пяць скаргаў на рашэнні выканкама, якія парушаюць правы грамадзян, засталіся без задавальнення. Вось так суды абараняюць правы грамадзян, замацаваныя ў другім раздзеле Канстытуцыі Беларусі пад назвай «Асоба, грамадства, дзяржава».

Людзям, якія не жывуць у Светлагорску і не дыхаюць гэтым смуродам, можа падацца праўдай тое, што кажуць дзяржаўныя СМІ, але ж дзеткі ў Якімавай Слабадзе хварэюць, у тым ліку і на астму. У адной жанчыны дачка прадала за бясцэнак кватэру (яшчэ і радавалася, што ўвогуле ўдалося прадаць), бо дзіця хворае на алергію, прыйшлося ўсёй сям'ёй з'ехаць.

### Народ і палітыка

Што такое палітыка? Не шукаючы доўгіх навуковых, надта закручаных вызначэнняў, можна сказаць: гэта мастацтва кіраваць краінай. Таму воляй-няволяй кожны з нас, хоча ён таго ці не, ужо ў палітыцы. Нашы заробкі і пенсіі – палітыка; камунальныя плацяжы, адукацыя, медыцына, культура, мова – палітыка; забарона свабод грамадзян, штрафы, арышты, сфабрыкаваныя справы – палітыка! Менавіта таму кожны, хто ўваходзіць у ініцыятыўную групу і актыўна дзейнічае, кожны, хто спачувае нашай дзейнасці, але не актыўнічае, а толькі назірае за яе дзейнасцю, кожны, хто спадзяецца на прэзідэнта, чыноўніка, праваабаронцу, журналіста, аднак уключацца ў «палітыку» баіцца, – ужо ў палітыцы. Як і тыя, хто не падтрымлівае нашу дзейнасць, крытыкуе яе і аблівае нас брудам, хто выступае адкрыта супраць нас. Можна працягваць да бясконцасці.

Але ў гэтай гісторыі трэба шукаць нешта агульнае, тое, што ўсіх аб'ядноўвае. А аб'ядноўваюць нас, як ні дзіўна гэта гучыць, нашы правы. Менавіта тыя правы, якія нам гарантуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, якімі мы надзелены ад нараджэння, якія мы атрымліваем і якімі карыстаемся цягам усяго жыцця. Тыя правы, што абвяшчае нам Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, прынятая Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый, 70-годдзе прыняцця якой мы адзначаем у гэтым годзе.

Тым больш крыўдна, што ў Беларусі, якая стаяла ля вытокаў утварэння ААН, парушаюцца правы людзей, улады ўжываюць да грамадзян краіны адміністрацыйны ціск, запалохванне звальненнем з працы, абразы і шальмаванне актыўных. У многіх гэта выклікае асцярогу, маўклівасць, боязь згубіць працу, няверʼе, што ўлады можна прымусіць працаваць на карысць людзей.

Пара зразумець, што чыноўнікі найбольш за ўсё баяцца супраціву, у тым ліку негвалтоўнага. Сядзець на канапе і чакаць, што добрае і чыстае паветра, зарплаты, пенсіі табе прынясе «добры цар» або нехта іншы, – бессэнсоўна!

**Алена МАСЛЮКОВА, Вадзім БОЛБАС.**

*г.Светлагорск.*

РУБАМ!

# «Заводу тут не месца!»

*Як у Брэсце вядуць барацьбу за права мець спрыяльнае навакольнае асяроддзе*

Гісторыя змагання жыхароў Брэста супраць будаўніцтва ў ваколіцах горада акумулятарнага завода прэтэндуе на тое, каб стаць самай гучнай грамадзянскай кампаніяй 2018 года.

### Што вядома?

Акумулятарны завод на тэрыторыі свабоднай эканамічнай зоны «Брэст» пачалі будаваць напрыканцы 2017 года па замове кампаніі «АйПаўэр» беларускага прадпрымальніка Віктара Лемяшэўскага. У якасці падрадчыка выступае «Аньхойская знешнеэканамічная будаўнічая карпарацыя» з Кітая.

Паводле агучаных планаў, агульны кошт інвестыцый, неабходных для рэалізацыі праекта, складае 26 мільёнаў долараў ЗША. Спачатку на заводзе мяркуецца выпускаць акумулятарныя свінцовыя батарэі, а ў перспектыве – наладзіць вытворчасць цягавых і індустрыяльных батарэй для напольнага транспарту і крыніц бесперабойнага сілкавання.

Праект па будаўніцтве акумулятарнага завода ўключаны ў Дзяржаўную праграму інавацыйнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2016–2020 гады, а гэта азначае, што можа разлічваць і на фінансаванне з бюджэту.

Сам Віктар Лемяшэўскі на адной з першых прэсканферэнцый, прысвечаных будаўніцтву завода, тлумачыў, што доўга выношваў ідэю стварэння такога прадпрыемства, аналагаў якому ў Беларусі няма. *«Мы 20 гадоў займаемся гэтым бізнесам, і ў нейкі момант адчулі, што ведаем, як пабудаваць завод і рабіць прадукцыю, каб не займацца імпартам як з Польшчы, Германіі і іншых краін»*, – распавядаў кіраўнік кампаніі «АйПаўэр».

Паводле слоў Лемяшэўскага, праект прайшоў усе неабходныя ўзгадненні і экалагічную экспертызу. Што тычыцца выбару месца для будаўніцтва, дык пляцоўка знаходзіцца на тэрыторыі, дзе дзейнічае спецыяльны эканамічны рэжым і ёсць магчымасць спажываць вялікі аб'ём электраэнергіі.

### Чаму не спыталіся ў людзей?

Аднак менавіта абраная тэрыторыя (завод будзе размяшчацца ў чатырох кіламетрах ад Брэста, прычым да бліжэйшых жылых дамоў і лецішчаў адлегласць увогуле каля 700 метраў) і з'явілася адным з галоўных аргументаў праціўнікаў будоўлі. У людзей ёсць засцярогі, што ўвод у эксплуатацыю гэтага прадпрыемства сур'ёзна паўплывае на экалагічную сітуацыю ў рэгіёне.


Адзіны дазволены мітынг у Брэсце 29 красавіка 2018 года.

Яшчэ адна прэтэнзія актывістаў, якія выступаюць супраць з'яўлення акумулятарнага завода, тычыцца не толькі небяспечнай вытворчасці (з выкарыстаннем свінцу і яго сплаваў), але і адсутнасці шырокага грамадскага абмеркавання да пачатку будаўніцтва.

Мясцовыя жыхары не хавалі свайго раздражнення, калі пачулі ад прадстаўнікоў улад, што інфармацыя аб планаваемай будоўлі была надрукавана ў дзяржаўнай раённай газеце, якая мае наклад 3400 асобнікаў, яшчэ ў канцы 2016 года. Як высветлілася, ні адной заўвагі наконт гэтай публікацыі ў Брэсцкім райвыканкаме не атрымалі.

*«Грамадскае абмеркаванне праведзена фармальна: гэта ж смешна, калі такая важная інфармацыя размяшчаецца ў газеце, якая фактычна распаўсюджваецца па ведамаснай падпісцы сярод прадпрыемстваў і арганізацый раёна»*, – кажа жыхарка Брэста Алена.

Тым не менш прадстаўнікі кампаніі «АйПаўэр» заявілі, што не бачаць неабходнасці прыпыняць будаўніцтва па ўласнай ініцыятыве, паколькі не парушалі заканадаўства.

У выніку ў суд Маскоўскага раёна Брэста быў пададзены іск ад імя прадстаўнікоў ініцыятыўнай групы і грамадскага аб'яднання «Экадом» з патрабаваннем прыпынення гаспадарчай дзейнасці па рэалізацыі праекта «Акумулятарны завод ТАА «АйПаўэр».


Кармленне галубоў у Брэсце як сімвал пратэсту.

Актывісты настойвалі на тым, што ініцыятарамі будоўлі была парушана працэдура правядзення грамадскага абмеркавання праекта, які, на іх думку, будзе мець *«значнае шкоднае ўздзеянне на навакольнае асяроддзе рэгіёна»*. Аднак суд іск адхіліў, палічыўшы, што не былі прадстаўлены *«доказы парушэння патрабаванняў у галіне аховы навакольнага асяроддзя і прычынення экалагічнай шкоды»*.

### Кармленне галубоў як сімвал пратэсту

Прыцягнуць увагу мясцовых жыхароў да праблем, якія могуць паўстаць пасля ўводу акумулятарнага завода ў эксплуатацыю, брэсцкія актывісты вырашылі яшчэ адным незвычайным спосабам. З канца лютага 2018 года кожную нядзелю яны збіраюцца на цэнтральнай плошчы абласнога цэнтра на фармальнай падставе – пакарміць галубоў, а разам з гэтым абмеркаваць навіны і план далейшых дзеянняў.

Калі першыя такія сустрэчы асаблівых наступстваў для ўдзельнікаў не мелі, дык у далейшым некаторых актывістаў пачалі выклікаць у міліцыю і папярэджваць пра незаконнасць мерапрыемства. Больш за ўсіх пацярпелі блогеры Сяргей Пятрухін і Аляксандр Кабанаў, якія ў сацыяльных сетках рабілі анлайн-трансляцыі гэтых недзельных сустрэч. Абодва мелі і папярэджанні ад пракуратуры, і шматлікія затрыманні, і суды, якія прымалі рашэнне караць блогераў велізарнымі штрафамі і адміністрацыйнымі арыштамі.

Акрамя фармату «кармлення галубоў» праціўнікі будаўніцтва завода неаднаразова дамагаліся правядзення і легальных масавых акцый пратэсту. На працягу года былі пададзены заяўкі на правядзенне 24 мітынгаў, 12 пікетаў і адной дэманстрацыі, аднак дазвол быў атрыманы толькі на адзін мітынг, які адбыўся 29 красавіка.

Дарэчы, гэты мітынг пад назвай «Брэстаўчанкі супраць свінцу» сабраў больш за 2 тысячы ўдзельнікаў і стаў прэцэдэнтам не толькі для Брэста, але і для іншых рэгіёнаў Беларусі, дзе санкцыянаваныя акцыі пратэсту – вялікая рэдкасць. Вось толькі, дазволіўшы мітынг, кіраўніцтва горада не палічыла патрэбным выступіць на ім, каб выказаць свой пункт гледжання і адказаць на набалелыя пытанні. Гэтае нежаданне ўлад абмяркоўваць з грамадскасцю будаўніцтва небяспечнага прадпрыемства і замоўчванне існуючых праблем абурыла шмат каго з удзельнікаў мерапрыемства.

Хоць ініцыятары пратэстнага руху супраць будаўніцтва акумулятарнага завода каля Брэста заяўляюць, што яны знаходзяцца па-за палітыкай, і імкнуцца пазбягаць дыскусій на гэтую тэму, цалкам не абысці не атрымліваецца. Нават у выніковай рэзалюцыі, прынятай на красавіцкім мітынгу, згадваецца, што ўдзельнікі патрабуюць прызнаць парушаным іх права *«на ўдзел у вядзенні дзяржаўных спраў»*. Таксама ў рэзалюцыі адзначалася гатоўнасць *«перайсці да іншых рашучых дзеянняў»*, калі патрабаванні жыхароў Брэста ў чарговы раз будуць праігнараваны чыноўнікамі.

### «Выйшаў на плошчу – выканаў свой грамадзянскі абавязак»

Верагодна, рашучасць пратэстоўцаў і шматлюднасць мітынгу паўплывала на тое, што ўсе далейшыя заяўкі на правядзенне масавых акцый брэсцкія ўлады пакідалі без задавальнення. Спасылкі былі розныя. Напрыклад, у канцы ліпеня новы мітынг супраць завода быў забаронены з-за свята дэсантнікаў і канцэрта, а ў жніўні – у сувязі з правядзеннем Дня моладзі і выставы сабак. Пасля пляцоўка ў Парку воінаў-інтэрнацыяналістаў, якая выбрана Брэсцкім гарвыканкамам у якасці месца правядзення масавых акцый, была і ўвогуле зачынена на рамонт.

Нежаданне ўлад дазваляць мірныя акцыі пратэсту і весці дыялог з неабыякавымі грамадзянамі прывяло да абвастрэння сітуацыі цяперашняй восенню, калі жыхароў горада пачалі затрымліваць за майкі з надпісамі супраць будаўніцтва завода або за адпаведныя налепкі на верхняй вопратцы.

Падчас чарговага «кармлення галубоў» (14 кастрычніка) на плошчы Леніна ўпершыню з'явілася расцяжка «Не – заводу АКБ», побач з якой выступілі некалькі пратэстоўцаў. Акцыя скончылася масавымі затрыманнямі: супрацоўнікі міліцыі палічылі тое, што здарылася на плошчы, незаконным пікетаваннем. Суд пагадзіўся з такой высновай і пакараў удзельнікаў штрафамі і арыштамі. Самае суровае пакаранне – па пяць сутак арышту – было вынесена блогерам Сяргею Пятрухіну і Аляксандру Кабанаву (яны трымалі ў руках «крамольную» расцяжку), а таксама апазіцыйнаму палітыку Мікалаю Статкевічу, які прыехаў з Мінска, каб выказаць падтрымку ўдзельнікам акцыі.

Паказальным было выступленне ў судзе Дзям'яна Лепясевіча, аднаго з актывістаў руху пратэсту, які прызнаў, што браў удзел у недазволенай акцыі. Але зрабіць гэта, паводле слоў актывіста, яго вымусілі ўлады. Лепясевіч паведаміў, што ініцыятыўная група неаднаразова звярталася ў органы дзяржаўнага кіравання і акцэнтавала ўвагу на парушэннях, што былі зроблены падчас будаўніцтва завода. Аднак на гэтыя заўвагі ўлады ніяк не рэагавалі альбо давалі адпіскі.

*«Як грамадзянін Беларусі я вычарпаў усе магчымасці змагацца за свае права жыць у чыстым навакольным асяроддзі, а тым, што выйшаў на плошчу, выканаў свой грамадзянскі абавязак і выказаў асабістую думку па праблеме, якую спараджаюць улады, ігнаруючы нашы звароты»*, – адзначыў Дзям'ян Лепясевіч.

### Шанец ёсць?

Падзеі апошніх дзён даюць актывістам надзею, што яшчэ ёсць шанец вырашыць гэту праблему. У прыватнасці, стала вядома, што праект акумулятарнага завода «АйПаўэр» паступіў у Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя на паўторную экалагічную экспертызу, а кіраўнік гэтага ведамства Андрэй Худык запрасіў праціўнікаў будаўніцтва гэтага завода каля Брэста на асабісты прыём. Падчас прамой тэлефоннай лініі міністр запэўніў, што вывучае ўсе матэрыялы, якія дасылаюць прадстаўнікі ініцыятыўнай групы, і гатовы *«яшчэ раз пагутарыць, разабрацца і, калі магчыма, паставіць кропкі, а калі не – то вырашаць пытанні»*.

**Алег СУПРУНЮК.**

## Лічба на памяць

37 тысяч – столькі жыхароў Брэста і Брэсцкага раёна паставілі свае подпісы супраць будаўніцтва акумулятарнага завода, бо лічаць, што прадпрыемства пагражае іх здароўю. Подпісы былі перададзены ў Адміністрацыю прэзідэнта Беларусі яшчэ ў лютым, аднак адзінай рэакцыяй з гэтай высокай установы было стварэнне рабочай камісіі з прадстаўнікоў розных міністэрстваў і ведамстваў, якая правяла ў Брэсце пяцігадзінную дыскусію з ініцыятыўнай групай. Але кампраміс не быў знойдзены.

Акрамя таго, яшчэ некалькі тысяч чалавек падпісаліся пад зваротам на імя Аляксандра Лукашэнкі з просьбай вызваліць ад пасады кіраўнікоў выканаўчых камітэтаў у Брэсце «ў сувязі са стратай даверу».

Подпісаў магло быць яшчэ больш: калі ў самім горадзе іх збор адбываўся даволі актыўна, то ў вёсках Брэсцкага раёна ўлады чынілі перашкоды і палічылі непажаданай арганізацыю сходаў для абмеркавання экалагічных праблем. Больш за тое, некаторых актывістаў мясцовая пракуратура афіцыйна папярэдзіла, што правядзенне падобных сходаў будзе расцэньвацца як несанкцыянаванае мерапрыемства.

## Уладзімір ВЯЛІЧКІН: «Ёсць пазітыўныя вынікі пратэстаў»

*На думку брэсцкага праваабаронцы **Уладзіміра Вялічкіна**, галоўная мэта ўлад – спыніць акцыі жыхароў горада супраць будаўніцтва акумулятарнага завода, які, на іх думку, нясе пагрозу непапраўнай шкоды здароўю жыхароў і навакольнаму асяроддзю.*

– Супраць незадаволеных брэстаўчан улады выкарыстоўваюць самыя розныя метады, – *расказвае Вялічкін*. – Колькасць затрыманых і арыштаваных ідзе на дзясяткі. Штрафамі караюць таксама журналістаў і блогераў, што асвятляюць падзеі вакол будоўлі. Некаторых актывістаў звольнілі з працы.

Каб утаймаваць пратэсты людзей супраць акумулятарнага завода, міліцыя ладзіць шэраг «прафілактычных» мерапрыемстваў. Супрацоўнікі РАУС называюць гэтыя меры «папярэджаннем аб недапушчальнасці адміністрацыйных правапарушэнняў», але на самай справе маюць на мэце абылгаць і застрашыць удзельнікаў пратэсту.

У пераслед грамадскіх актывістаў уцягнуты таксама пракуратура і суд, а мясцовая выканаўчая ўлада дэманстратыўна пазбаўляе брэстаўчан правоў на свабоду слова, свабоду на распаўсюджванне і атрыманне праўдзівай інфармацыі, на мірны сход, на справядлівае судовае разбіральніцтва, на здаровае асяроддзе...

Зараз мы назіраем і пазітыўныя вынікі пратэстаў: у Брэсце імкліва ідзе фарміраванне грамадскай супольнасці, расце нацыянальная самасвядомасць, паляпшаюцца ўмовы знаходжання ў ізалятары часовага ўтрымання. Таксама выяўлены хібы ў будоўлі завода і факты забруджвання навакольнага асяроддзя. У выніку вінаватыя прыцягваюцца да адказнасці, а небяспечныя адкіды вывозяцца ў іншае месца.

Але брэстаўчане здавацца не збіраюцца і маюць намер змагацца супраць завода да канца.

Шкада толькі, што не ўсе пацярпелыя ад свавольства ўладаў абскарджваюць свае пакаранні. Натуральна, што ў дзяржаве, дзе ўлады дэманстратыўна ігнаруюць патрабаванні заканадаўства, людзі не вераць у справядлівасць і аб'ектыўнасць судоў. Але абскарджваць трэба, бо ў іншым выпадку дзяржава замінае грамадзянам у абароне сваіх правоў, каб давесці справу да міжнародных інстанцый. А калі няма скаргаў у Камітэт па правах чалавека, робіцца выснова, што няма і парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# Дым на гарызонце Магілёва прыносіць уласнікам заводаў грошы, а магілёўцам – непакой

Вызначаць, якое надвор'е будзе ў Магілёве сёння пад вечар, заўтра-паслязаўтра, можна ў прамысловых маштабах. Для гэтага не трэба нават знаёмства з прагнозам – хопіць і народных прыкмет. Напрыклад, калі дым са шматлікіх труб на тэрыторыі свабоднай эканамічнай зоны «Магілёў» ідзе ўверх, значыць, будзе ясна і марозна. Калі ў бок – значыць, будзе адліга.

Зрэшты, магілёўцы наўрад ці моцна радуюцца такой своеасаблівай метэастанцыі. Іх усё больш трывожыць, якую шкоду могуць нанесці шматлікія прадпрыемствы, якія кампактна размясціліся непасрэдна пад Магілёвам, недалёка ад аграгарадка Вейна. Вецер адыгрывае вырашальную ролю – калі ён дзьме ў бок горада, значыць, у Заднепроўі сёння будзе пахнуць па-асабліваму.

### Свабода, эканоміка і чорныя шматкі

СЭЗ «Магілёў» – гэта тэрыторыя, на якой для прадпрыемстваў дзейнічае льготны прававы рэжым. Рэзідэнты вызваляюцца ад выплаты ўвазных мытных пошлін і ПДВ, а таксама падаткаў на нерухомую маёмасць і на прыбытак на працягу першых 10 гадоў з пачатку дзейнасці. Калі мінае гэты тэрмін, то фірмы выплачваюць іх па стаўцы, зменшанай на 50 працэнтаў.

На адной з такіх тэрыторый досыць блізка адзін ад аднаго размясціліся адразу некалькі заводаў – ЗТАА «ВМГ Індустры» і ЗТАА «Мебелайн» (займаюцца дрэваапрацоўкай), а таксама ЗТАА «Кранаспан ОСБ» (прамысловасць будматэрыялаў). Недалёка сапе хімічны гігант «Хімвалакно». Побач у лістападзе пачаў працаваць завод па вытворчасці тэхнічнага вугляроду – ЗТАА «Омск Карбон Магілёў».

Мясцовыя жыхары ўспрынялі такое суседства без энтузіязму. Яшчэ ў 2015 годзе яны вырашылі сабраць подпісы супраць размяшчэння омскага прадпрыемства. Атрымалася масавая акцыя – пры тым што ў Вейна жыве каля 6 тысяч чалавек, свае подпісы супраць «Омск Карбону» пакінулі 1,5 тысячы.

Магчыма, гэта стала адной з прычын, чаму запуск фабрыкі тэхнічнага вугляроду некалькі разоў пераносілі. Першапачаткова казалі, што магілёўскі «Омск Карбон» пачне дзейнічаць у лістападзе-снежні 2015 года. Затым дату перанеслі на восень 2016-га, а яшчэ пазней – на першую палову 2018 года.


Якая толькі брыдоціна не плыве ў рэкі...

У выніку першую партыю тэхнічнага вугляроду атрымалі толькі ў лістападзе 2018 года. Абставілі гэтую справу максімальна пампезна: паглядзець на чорныя шматкі ў прабірцы і павіншаваць кіраўніцтва завода прыехаў нават кіраўнік Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч.

Зрэшты, пакуль фабрыку запускалі, адбыліся некалькі цікавых гісторый.

### Трубы любяць цішыню

Сярод тых, хто выказаў сумневы ў бясшкоднасці «Омск Карбону», былі незалежныя магілёўскія СМІ. У 2017 годзе гарадскі партал 6tv.by апублікаваў некалькі матэрыялаў, у якіх распавёў пра магчымыя негатыўныя наступствы працы прадпрыемства. У адказ на гэта кіраўнік ТАА «Омсктэхвуглерод» Валерый Каплунат папрасіў міліцыю правесці праверку ў дачыненні да супрацоўнікаў партала. Аднак нічога супрацьзаконнага не было выяўлена.

У 2018 годзе магілёўскі праваабарончы сайт mspring.online зрабіў інтэрв'ю з омскім блогерам Орысам Брутам, які расследаваў, якую шкоду прынесла «Омск Карбон» расійскаму гораду. Праз некаторы час пасля з'яўлення інтэрв'ю кіраўніцтва завода папрасіла МУС Рэспублікі Беларусь распачаць крымінальную справу ў дачыненні да праваабарончага сайта, адначасова абвінаваціўшы яго аўтараў у паклёпе. Аднак ізноў міліцыя нічога супрацьзаконнага не выявіла.

За прадпрыемствы СЭЗ «Магілёў» заступілася дзяржаўная прэса. Газета «Рэспубліка» ў артыкуле «Чуткамі інвестыцыі псуюцца» (нумар ад 19 чэрвеня) абвінавачвала тых, хто мае прэтэнзіі да завода, у тым, што яны хочуць «спужаць замежных інвестараў». У гэтым жа матэрыяле кіраўнік адміністрацыі свабоднай эканамічнай зоны **Андрэй Ярцаў** абвінавачвае простых людзей: маўляў, яны *«не заўсёды здольныя разабрацца пісьменна ў праблеме»* і *«тармозяць тэхнічны прагрэс»*.

### Зона пракуратуры

Затое ў праблеме разабралася пракуратура. У канцы лістапада гэтага года выявілася, што ў рэкі Дзягцярка і Вільчанка, якія цякуць недалёка ад СЭЗ «Магілёў», рэгулярна скідаліся сцёкавыя воды, у якіх узровень шкодных рэчываў у шмат разоў перавышаў дапушчальныя нормы. Па факце парушэння экалагічных норм у дачыненні да службовых асоб МУКП «Жылкамгас», ЗТАА «ВМГ Індустры», ЗТАА «Кранаспан ОСБ», ЗТАА «Мебелайн» распачалі крымінальную справу.

Высветлілася, што жылкамгас павінен быў чысціць сцёкавыя воды, але рабіў гэта вельмі дрэнна. Праблема ў тым, што рэкі Вільчанка і Дзягцярка нясуць свае воды ў Вільчанскае вадасховішча. Улетку тут купаецца мноства дзяцей і дарослых. У гэтым годзе служба санітарнага нагляду забараніла адпачынак на вадаёме, паколькі вада не адпавядала гігіенічным нарматывам. Але ці шмат каго такая забарона спыніла?

Як лічыць магілёўскі праваабаронца **Аляксей Колчын**, гэтая сітуацыя выкрывае адну з галоўных праблем – пра экалагічныя забруджванні, як правіла, простыя людзі даведваюцца занадта позна:

*– У рэальным часе мы можам спадзявацца толькі на дадзеныя дзяржаўнай экспертызы. Аднак наколькі ёй можна верыць – не вядома. І зразумела, чаму магілёўцы ў большасці ёй не вераць.*

Не вераць, але да актыўных дзеянняў, у адрозненне ад брэстаўчан і светлагорцаў, не пераходзяць.

*– Апошні «бачны» пратэст супраць забруджвання быў якраз у 2015 годзе ў Вейна. Цяпер усе быццам змірыліся з гэтымі «комінамі»*, – кажа праваабаронца.

Пры гэтым ён не выступае супраць прадпрыемстваў. Колчын проста лічыць, што павінен быць належны грамадскі кантроль і экспертыза, да якой ёсць давер.

*– Важна, каб у пагоні за эканамічнай выгадай мясцовыя ўлады не забывалі пра экалогію*, – упэўнены ён. – *Разам з калегамі мы ўважліва адсочваем сітуацыю ў СЭЗ «Магілёў» і па магчымасці робім публічнай інфармацыю пра тыя парушэнні, пра якія нам вядома. Мы гатовы дапамагаць магілёўцам адстаяць свае права на чыстыя зямлю, ваду і паветра.*

**Алесь РАЙКАН.**

